не „дробным лістком“, „нямецкім падгалоскам“ і г. д. Але-ж вось той-жа п. Смогожэвскі сьцьвярджае цяпер, што гэная газэта—„вельмі шырока чытаная ў салідных тарговых колах Парыжа, багатая і запраўды незалежная“. Мала таго: гэная газэта — вельмі прыхільная да Польшчы, як піша той-жа п. Смогожэвскі... Дык вось новы скандал у тым, што—цераз тыдзень пасьля афіцыяльнага запярэчаньня з боку польскага міністэрства замежных спраў—тая ж газэта напісала ізноў, што „п. Пуанкарэ маніцца здабыць сабе фінансавую помач Нямеччыны, падтрымліваючы жаданьне апошняе, каб ей быў вернены Гданскі калідор“. Але яшчэ больш скандал—ў тым, што, як сьцьвярджае той-жа карэспандэнт, францускі ўрад ад 8 аж да 25 кастрычніка дагэтуль яшчэ не запярэчыў гэтай весткі салідная фінансавай газэты сталіцы... Калі-ж сам карэспандэнт зьвярнуўся да рэдактара гэтай газэты, якога лічыць вельмі чэсным чалавекам і прыяцелем Польшчы, дык той адказаў коратка: „Я ведаю, што пішу“—і ўсё...

„Усё гэта паказывае на патрэбу ў Парыжу інтэлігэнтнай акцыі—дыплёматычнай і прапаганднай, але гэткай акцыі ў нас у Парыжу якраз няма“, кажа польскі карэспандэнт, ня так даўно выкінуты са скандалам з польскага пасольства ў Парыжу ды амаль ня высланы з Францыі па трэбаваньню пасла Хлаповскага.

Францыя робіць тое, што для яе карысьней, і ня польскай „дыплёматычнай інтэлігэнцыі“ вучыць яе палітычнага розуму... А што ўсе „калідоры“, панаробленыя вэрсальскімі краўцамі, будуць у вельмі хуткім часе зьнішчаны,—у гэтым парукай воля тэй валадарнай „тройкі“, голас якой мы пачулі нядаўна ў „Маніфэсьце“ 177 капіталістаў.

# У Польшчы.

## Адказ польскіх прамыслоўцаў на Маніфэст Капіталістаў.

Цікаўна, што з боку Польшчы „Маніфэст“ падпісалі афіцыяльныя прадстаўнікі урадавай Польшчы, як: старшыня Польскага Банку Карпіньскі, міністар гандлю і прамысловасьці Квятковскі і інш. Але вось саюз польскіх горных прамыслоўцаў выпусьціў адозву, у якой востра выступае проці Маніфэсту.

## Далейшае збліжэньне ўраду Пілсудскага з быўшымі прамыслоўцамі.

У тую суботу мела адбыцца ў Варшаве скліканая ўрадам Пілсудскага вялікая нарада ўраду з прадстаўнікамі арганізацыяў буйнай прамысловасьці і абшарніцтва. У нарадзе мелі прыняць учасьце каля 50 „дэлегатаў польскага капіталу“. Нарада мае ўстанавіць — „способы сталага супрацоўніцтва ўраду з гаспадарчымі коламі“, апінія якіх мае „служыць падставай для дзеяльнасьці ўраду“...

Так зусім адкрыта піша казённая прэса... На нараду, ведама-ж, нават не запрошаны прадстаўнікі варшаўскай цэнтралі саюзаў спажыўцоў, якая прадстаўляе голас 6 з паловай мільёнаў сяброў... Ясна, што для капіталістаў гэтыя спажыўцы—толькі тыя бараны, якіх яны будуць стрыгчы...

## Пад знакам „стаўкі на абшарніка“.

„Кур. Варшавскі“ паведамляе што, ўрад мае назначыць старшынёй Фінансавай Рады былага міністра фінансаў пасла Міхальскага, аднаго з павадыроў так-званых „хрысьціянскіх (чытай: найвялікшых) абшарнікаў“ у Сойме.

У склад гэтай праектаванай Рады ўвойдуць былыя міністры фінансаў (даказаўшыя на дзеле сваю нядольнасьць у гэтай сваей „спэцыяльнасьці“), ды яшчэ некаторыя польскія „выдатныя фінансісты“...

## Зьезд абшарнікаў усходняй Галічыны.

У зьвязку з новай стаўкай м. Пілсудскага на вялікага абшарніка, — заварушыліся абшарнікі на ўсім краю. Пасьля зьезду ў Нясьвіжу абшарнікі ладзяць свой зьезд раёну Усходняй Галічыны. Мэта зьезду—„перамена адносінаў да ўраду Пілсудскага з нэгатыўных (врожых) на пазытыуныя (прыхільныя)“.

## Асмалоўскі — ваяводай.

Былы „віцэ-кароль беларускай Індыі“ Асмалоўскі мае быць назначаны станіславаўскім ваяводай.

Як ведама, на становішчы Генаральнага Камісара Усходніх Зямель п. Асмалоўскі адзначыўся тым, што ўсю працу рабіў... за яго п. Івашкевіч, яго заступнік. А сам „віцэ-карол“ цікавіўся больш „Льном Крэсовым“, на якім зарабіў вялікія грошы...

Трэба думаць, што лён расьце таксама і ў Станіславаўскім ваяводстве...

## Англійскім вуглякопам.

Палітычныя вязьні, якія адбываюць кару ў Львоўскім вострозе пры вул. Ботарага, адмовіліся на два тыдні ад помачы ад сваіх родных і камітэту, а грошы, якія за гэты працяг часу зьберагуцца, пастанавілі паслаць бастуючым вуглякопам у Англіі. Ужо паслалі 100 зл.

## „Выхаваўчы закон“ проці прэсы...

Адна з казённых газэт — „Кур. Поранны“—паведамляе аб тым, што ўрад апрацаваў новы дэкрэт аб прэсе, які прадбачыць розныя новыя „скарпіёны“ для прэсы. „Радыкальная“ газэта ня мае адвагі ані лаяць гэты дэкрэт, ані хваліць гэтыя скарпіёны, якія маюць тасавацца толькі адносна да так-званай „антыпаньствовай“ прэсы, да якой газэта залічае—радыкальную прэсу беларускую, украінскую і... эндэцкую! — Каб выйсьці з цяжкага палажэньня, „паступовая“ польская газэта прызнае за дэкрэтам „ўзгадавальнае значэньне“ на „пераходны час“, пакуль... ведама-ж,—пакуль новы польскі ўрад не зьвядзе з зямлі Польскай—гэтых „антыпаньствовых“ беларусаў, украінцаў ды—эндэкаў.

## Ізноў падвышка праезду чыгункай.

Ад 10 лістапада ўрад мае ізноў падвысіць на 10 працэнтаў цэны праезду ды правозу чыгункай. Гэткім чынам дарагоўля па ўсім краю павінна будзе ўзрасьці... А ўрад толькі—што склікаў вялікую нараду прамыслоўцаў ды абшарнікаў — быццам дзеля барацьбы з дарагоўляй... Словам—ўсё ў парадку!

# Заграніцай.

## 15-ты зьезд камуністычнай партыі ў Маскве.

28/X у Маскве распачаўся 15-ты зьезд усесаюзнай камуністычнай партыі. На зьезд прыбыла 817 дэлегатаў. У праграме зьезду пастаўлены даклады: Бухарына—аб міжнародавым палажэньні, Рыкава — аб гаспадарчым стане Саюзу, Томскага — аб дзеяльнасьці прафэс. саюзаў і Сталіна — аб апазіцыі. У сваім дакладзе Сталін меў дамагацца ад апазіцыі поўнай капітуляцыі—дзеля захаваньня бясспрэчнага адзінства партыі.

У сваім дакладзе Бухарын наагул адзначыў пэўную „стабілізацыю“ (ўмацаваньне) капіталістычнай гаспадаркі ў Эўропе, доказам чаго зьяўляюцца тыя вялізарныя трэсты (фінансава-прамысловыя аб'яднаньні), якія пачалі ствараць прамыслоўцы найважнейшых прамысловых краёў Эўропы. Але па гэтай „стабілізацыі“ магутнымі ўдарамі зьявіліся: забастоўка вуглякопаў у Англіі і — здарэньні ў Кітаі. Абодва гэтыя зьявішчы б'юць у першую чаргу па капіталізьме найМагутнейшага дагэтуль прамысловага краю — Англіі, руйнуючы яго буржуазію—як эканамічна, таксама і палітычна. Да гэтага трэба дадаць яшчэ і канкурэнцыю амэрыканскай буржуазіі, якая аднэй рукой крыху памагае згалеўшай ад вайны Эўропе, другой ...робіць гэту яе „стабілізацыю“ вельмі ўмоўнай. Дык замежная палітыка СССР не павінна залішне давяраць гэтай стабілізацыі буржуазнай Эўропы наагул, разглядаючы з свайго ўласнага пункту гледжаньня кожную эўрапэйскую дзяржаву паасобку.

## Гаспадарчае жыцьцё СССР.

Рада Народных Камісараў пастанавіла, каб умовы, якія будуць рабіцца ад 1./XI. 1926 года, увялі вышэйшыя заработкі. Павышэньне гэтае абыйме гарнякоў, гутнікаў, мэталістаў, тэкстыльшчыкаў і г. д. Для горш аплачываных работнікаў павышэньне будзе на 10 проц. Для лепш аплачываных звышка будзе адносна меншая. Такую самую звышку атрымалі работнікі чыгунак, пошт, тэлеграфаў і г. д.

Прамысловая вытворчасьць СССР у траўні павысілася ў параўнаньні з ліпнем на $18\frac{1}{2}\%$. Вартасьць яе раўняецца 320,1 мільёнам, супраць 270 мільёнаў у папярэднім месяцы. Найвялікшы ўзрост паказывае прамысловасьць мэталічная і тэкстыльная. Лічба работнікаў узрасла на 1,3 проц., прамысловы заработак узрос на 3,1 проц.

Абарот грошаў на 1-га верасьня быў 1.274,7 мільёнаў рублёў. Кошт утрыманьня зьменшыўся на 1 проц.

## Адказ літоўскага ўраду радзе амбасадораў (паслоў).

У адказ на пастанову Рады Паслоў (Антанты), якія ізноў, у зьвязку з аднаўленьнем літоўска-расейскага Трактату ў справе Віленшчыны, пацьвярдзіла „аканчальнае далучэньне Віленшчыны да Польшчы“, літоўскі ўрад апублікаваў афіцыяльную заяву. У гэтай заяве літоўскі ўрад кажа, што ніколі не прызнаваў дый прызнаваць ня будзе аднастароннай пастановы гэтай Рады.

## У фашыстаўскім раю.

Гранді, віцэ-міністар замежных спраў італьянскага фашыстаўскага ўраду, даў інтэр'вю карэспандэнту „Associeted Presse“ (саюз амэрыканскай прэсы). У гэтым інтэр'вю Гранді прызнаў, што няўхільны далейшы ўзрост эканамічнага крызісу ў Італі. Лічба безработных — казаў міністар, напэўна дойдзе да мільёна. Выхад з гэтага палажэньня міністар бязумоўна бачыць у далейшым абніжэньні заработку працоўных мас і далейшым іх абяздоленьні.

## Канфэрэнцыя сацыялістаў.

З пачыну нямецкіх сацыялістаў у Люксэмбургу мае адбыцца канфэрэнцыя прадстаўнікоў англійскіх, францускіх, нямецкіх і бэльгійскіх сацыялістычных партыяў. Конфэрэнцыя мае мэтай памагчы гаспадарчаму і палітычнаму збліжэньню Францыі і Нямеччыны, якое быццам мае найляпей загарантаваць мір ў Эўропе.

## Англійскія вуглякопы і помач СССР.

Сэкрэтар саюзу англійскіх вуглякопаў Кук выслаў тэлеграму да Цэнтралі Прафсаюзаў СССР, у якой піша, што бастуючыя англійскія работнікі з голаду пачалі станавіцца на работу, ламаючы забастоўку. Дык просіць аб дапамозе надалей.

Цэнтраля безадкладна паведаміла Кука, што ў той-жа дзень тэлеграфна пераказала Саюзу ў Лёндан мільён рублёў золатам. Гэта, здаецца, ужо—дзесяты мільён, высланы з СССР на падтрыманьне бастуючых англійскіх таварышоў.

## Канфэрэнцыя прэм'ераў Брытанскай Імпэрыі.

Канфэрэнцыя брытансхіх прэм'ераў адобрыла, пасьля дакладу Чэмбэрлена, лінію яго замежнай палітыкі. Асаблівую ўвагу канфэрэнцыя зьвярнула на даклад начальніка генаральнага штабу Імпэрыі Бэркэнхэда — аб небясьпецы, якая пагражае англійскай уладзе ў Індыі з боку бальшавікоў у Афганістане. Ён казаў, што Радавы Урад творыць у Афганістане вялікую ваенна-тэхнічную базу (падставу) для наступленьня на Індыю, арганізуючы там пад кіраўніцтвам радавых афіцэраў армію і будуючы магутны паветраны флёт.

## Пад шумок „маральнай санацыі“.

Пад шумок „маральнай санацыі“ паліцыя старанна чысьціць — замест зладзеяў і дэфраўдантаў—рады барацьбітаў за справу працоўных.

Гэтак па няпоўным лічбам „Trybuny Rob.“ у траўні 1926 года да перавароту—было арыштована 612 асоб, разогнана 5 мітынгаў, адбылося 19 палітычных працэсаў з 96 падсуднымі, засуджаны 29 асоб на 60 год разам. Галадоўка была — 1.

Пасьля перавароту арыштаваны ў тымжа траўні 64 асобы, адбыўся 21 паліт. працэс з 276 падсуднымі, засуджаны 59 асоб на $40\frac{1}{2}$ год разам.

У чэрвені 1926 г. лічба арыштаваных дайшла ўжо да 578 асоб, адбыліся 23 паліт. працэсы, з 127 падсуднымі, засуджаны 71 асоба на 195 год. Галадовак было—10. Пры разгоне маніфэстацыяў безработных забіты 14, ранены 44 асобы.

У ліпні 1926 г. арыштаваны 250 асоб адбылося 27 паліт. прэцэсаў з 163 абвінавачанымі, засуджаны 112 асоб на 207 год разам. Галадовак было 4.

У жніўні 1926 г. арыштованы 138 асоб, разогнаны 5 мітынгаў, адбылося 25 працэсаў з 141 падсуднымі, засуджаны 85 асоб на 244 гадоў разам.

А за 15 дзён верасьня (ад 10 да 25) па няпоўным данным пасьпелі арыштаваць 207 работнікаў і сялян, 26 асоб арыштаваны па абвінавачаньню ў вывешываньні транспарантаў з рэвалюцыйнымі падпісамі і пашырэньні адозваў з паданьнем амністыі. У гэты час адбылася адна 10—дзённая галадоўка з штучным кармленьнем і біцьцём, а адзін палітычны вязень у Лодзі перарэзаў сабе горла. Адбыўся „бунт“ палітычных вязьняў у Равічу. Адна 18—гадавая дзяўчына была засуджана на два гады „ciężkiego i obostrzonego więzienia“.

**ЦЭНТРАЛЬНЫ СЭКРЭТАРЫЯТ**
**Белар. Сялян.-Работ. Грамады**
**перанесены**
ў новае памяшчэньне: **Вялікая вул. 30—9.**
Усялякую карэспандэнцыю адрэсуўце на гэты адрэс.

# „Цётка“.

### (У дзесятыя ўгодкі сьмерці Яе).

У пачатку сёлетняга лютага месяца мінула 10 гадоў ад дня сьмерці беларускае пясьняркі-рэвалюцыянэркі Алёзіі з Пашкевічаў Кейрысовай, ведамай пад мянюшкай „Цёткі“. Угодкі гэтыя прайшлі неяк няўзнак. Дык хоць пад канец году—у традыцыйны „Задушны дзень“ — лічым сваім абавязкам памянуць памершую без пары Таварышку, зьмяшчаючы гэты кароткі агляд грамадзкае працы і паэтыцкае творчасьці „Цёткі“.

Рэдакцыя.

З імем „Цёткі“ злучаюцца першыя зачаткі беларускай работы ў Вільні—у 1904—1905 гадох, калі, поруч з рэвалюцыйным рухам па ўсей Расеі, пачаўся ў шырокіх масах народных рух беларускі. Пад той час у Вільні пачалі ладзіцца беларускія работніцкія арганізацыі—кружкі Беларускай Сацыялістычнай Грамады, і тут „Цётка“ выказала свае арганізатарскія здольнасьці. Яе можна было бачыць на ўсіх вялікшых работніцкіх сходах,—а калі настаў час вялікіх публічных мітынгаў, „Цётка“ выступала ўсюды, будзячы агульны спогад сваімі шчырымі, гарачымі беларускімі прамовамі. Асаблівую энэргію выявіла „Цётка“ ў часе сваей нядоўгай працы ў нова-вілейскай бальніцы: яна была тут у самым цэнтры работніцкіх арганізацыяў Нова-Вілейска.

Ужо пад самы канец рэвалюцыйнага пэрыяду ў Вільні пачала выхадзіць першая беларуская легальная газэта „Наша Доля“, і „Цётка“ прыняла ў ёй гарачае ўчасьце. Маючы вялікія пісарскія здольнасьці, яна друкавала тут свае творы, каторыя станавілі прадоўжаньне яе першых паэтыцкіх спроб на сучасныя палітычныя тэмы.

Калі рэакцыя пачала шырыцца ўсё болей, і „Цётку“ пацягнулі пад суд, яна прымушана была выехаць заграніцу. Яна знайшла сабе прыпынак у Львове—між братамі-украінцамі. Тут хадзіла ў унівэрсытэт — на гісторычна-філёлёгічны факультэт і спэцыяльна працавала над беларушчынай. Як тэму для доктарату, выбрала беларускія батлейкі і сабрала багаты матэрял да гэтага.

Выйшаўшы замуж за літоўскага дзеяча—інжэнера Кейрыса і зьмяніўшы гэтак імя, „Цётка“ вярнулася назад у родны Край, каб далей працаваць між сваімі. Тут, у Вільні, яна была пры закладзінах беларускага тэатру, беларускіх грамадзянскіх арганізацыяў. Працавала дзеля школьнай справы, падгатаўляючы кніжкі для пачатковых школ, і выпусьціла ў сьвет сваё „Першае чытаньне“. Нейкі час была ў Пецярбурзе, дзе працавала ў беларускай калёніі, пісала і зьмяшчала свае творы ў „Маладой Беларусі“. Пасьля наладзіла ў Менску месячнік для маладзёжы —„Лучынку“ і была там галоўнай літэратурнай кіраўнічкай.

Калі настала вайна, „Цётка“ запісалася ў сёстры міласэрдзя і пад кулямі на палёх бітв аказвала помач раненым, не зьвяртаючы ўвагі на небясьпечнасьць. Пасьля, каб быць у Вільні, паступіла ў тутэйшы тыфусовы барак і працавала блізка да апошніх дзён расейскага панаваньня. І тут, спатыкаючы хворых салдатаў-беларусаў, „Цётка“ вяла між імі сваю беларускую работу. Толькі перад самым адыходам расейцаў, баючыся, каб яе ня вывязьлі разам з адступаўшым войскам, „Цётка“ папрасіла даць ей на нейкі час одпуск.

Калі—пасьля прыходу немцаў—пачалася шырокая беларуская работа дзеля наладжаньня беларускіх школ, „Цётка“ была тут першая: яна вышуківала вучыцельскія сілы, зьбірала дзяцей, сама кіравала школьнай работай. Гэтак сама пераважна яе стараньнем былі ўрэшце адкрыты беларускія вучыцельскія курсы ў Вільні, на каторых „Цётка“ выкладала пэдагогіку, гыгіену і інш. Поруч з тым яна знаходзіла яшчэ час і дзеля таго, каб вясьці работу між сваімі старымі знаёмымі—віленскімі работнікамі. Цётка ўваходзіла ў склад Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Работніцкай Групы, якая адыграла кіраўнічую ролю ў-ва ўсім беларускім грамадзкім жыцьці часоў нямецкае акупацыі.

У часе гэткай працы „Цётку“ спаткаў цяжкі ўдар: у роднай вёсцы — у Лідчыне — памёр яе бацька. Паехаўшы хаваць бацьку, „Цётка“ і там не ўсядзела без работы: яна аб'яжджала вёскі, дзе панаваў пад той час тыфус, каб даць справаздачу ў Вільні і прасіць помачы для зруйнаваных вайной сялян; —ды тут заразілася на тую хваробу, каторая яе не чапіла ў часе працы ў тыфусовым бараку. Аслабеўшыя ад церазмернай працы сілы былі прычынай таго, што „Цётка“ не перанясла хваробы і ў ноч з 4 на 5 лютага 1916 году зыйшла са сьвету. Яе пахавалі на вясковых могілках—між тымі шэрымі гаротнікамі, для каторых яна працавала ўсё сваё жыцьцё.

* * *

Надзвычайная рознароднасьць грамадзкай працы, жаданьне ўсюды прылажыць руку да сьвятой справы адраджэньня беларускага народу і авочнасьць работы сьведчаць найлепей аб духовым багацьці гэтай першай беларускай паэткі і пісьменьніцы. Ды гэта выяўляецца і ў творах яе, дзе дух пясьняркі бунтуецца проці тых путаў, у якія былі закавалі наш народ, закавалі вольную волю чалавека. Гэта бунтаўнічы дух то шыбае ў недасьціглую вышу, то ізноў, змучаны няўстаннай барацьбой, прынікае да зямлі і расплываецца ў горкіх сьлёзах...

Першы пэрыад паэтыцкай творчасьці „Цёткі“ — гэта вершы на палітычныя тэмы, пісаныя ў 1905—6 гадох. Яркія прадвесьнікі расейскай рэвалюцыі—вялізарныя работніцкія дэманстрацыі, без міласэрдзя расстрэліваныя царскім урадам, тэрорыстычныя акты і, наагул, уся расейская рэвалюцыя—выклікаюць у душы „Цёткі“ жывыя адгалоскі, каторыя выліваюцца ў цыклю вершаў: „Мора“ (народная рэвалюцыя), „Хрэст на свабоду“, выдаваных у Вільні нелегальна ў дзесятках тысяч экзэмпляраў на асобных лістках (1905—6 г.г.). ды іншых, сабраных у зборнічку пад агульным загалоўкам „Хрэст на свабоду“, друкаваным у Кракаве ў 1906 годзе. У бойкай, жывой вершаванай форме апавядае Цётка аб здарэньнях дня:

Бомба трах—Сяргей у шматы!
Мірскі бяжыць аж да хаты,
Цар у страху, сынод млее,
Беданосцаў аж хварэе!..

(„Хрэст на свабоду“).

Страшэнная палітычная рэакцыя, пачаўшаяся пасьля выбуху рэвалюцыі, пакіравала творчасьць „Цёткі“ на новую дарогу—на дарогу індывідуальных пражываньняў, зьвязаных вельмі крэпка з усім беларускім рухам. І гэта сувязь — лёгка зразумелая: для тэй невялікай жмені людзей, каторыя тварылі беларускую ідэю, справа беларуская станавіла быццам інтэгральную, неаддзялімую часьць іх душы.

Як усе натуры, каторыя працуюць парывамі — выбухова, „Цётка“ пачынала пісаць многа, але давадзіла да канца толькі нязначную частку распачатых прац. Ды ў гэтым адыграла сур'ёзную ролю яе хвароба—сухоты, з каторай нашай пясьнярцы даводзілася змагацца пры вельмі цяжкіх варунках. Ня дзіва, што і аб сыстэматычнай працы ў сваей Бацькаўшчыне „Цётка“ не магла думаць, і найбольш плодны пэрыад яе творчасьці прыпадае на час пражываньня заграніцай—у Кракаве і Львове. Тут разлука з родным краем служыла за магутны чыньнік у паэтыцкай працы „Цёткі“. Адгэтуль яна пісала сваім таварышам у Вільню:

І душна, і цесна,—і сэрцэ самлела
Мне тут на чужыне, здалёк ад сваіх...
Як птушка, на скрыдлах ляцець бы хацела,
Як хваля па моры, плыла бы да іх!

(„З чужыны“).

Вачыма душы сваей бачыла „Цётка“ з далёкай чужыны родны край, сваіх землякоў, і шчыры спогад бядзе і нядолі кратаў струны яе ліры. Сколькі шчырасьці і спогаду хоць-бы ў гэтым вершыку, ахвяраваным „Вясковым кабетам“:

Ой, сястронкі, ой, вясковы,
Ой, вы, кветкі прызавяты!
Вашы твары, як васковы,
Вашы шчокі сьлязьмі зьмяты...

Бунтуецца душа пясьняркі, гледзячы на гора і пакуту нашага народу. Яна мае адно жаданьне: хоць самым скромным спосабам быць карыснай сваім братом і роднай зямлі:

